# РАДАВАЯ РБ БЕЛАРУСЬ

Субота. 1 травеня 1999 году. № 5 (00005)
Наклад 400299. Кошт 10000 талераў

Грамадзка-палітычная газэта
Заснаваная ў студзені 1999 году


## У СЬВЕЦЕ

### НОВЫ РАЙХ

***У Літве ўжо год ня чутна песьняў, а над краінаю даўна не лунае мір і спакой. Год таму, у выніку дзяржаўнага перавароту, да ўлады прыйшла нацыянал-буржуазная партыя, што паставіла за мэту любым коштам стварыць Літоўскі Райх ад Таліну да Адэсы, а ўсіх нелітоўцаў вынішчыць ды асыміляваць. Па некалі прыгожых пляцах Коўна не шпацыруюць людзі на працу і ў паркі ды касьцёлы, а маршуюць фашыстоўцы пад высока ўзьнятымі чырвонымі сьцягамі з чорнымі медзьвядзямі ды ў наркатычным сп'яненьні крычаць: "Viva Lietuva! Viva Führer!"***

Найцікавейшае ў дадзенай сытуацыі тое, што хоць нашае таннае беларускае масла й малако псуюцца на мяжы праз адсутнасьць дазволу зь літоўскага боку на праезд, а ў самой Літве заробак складае ўсяго толькі 10 райхсьлітаў, дык літоўскаму фюрэру Глюкусу собіць яшчэ праводзіць палітычнае шоў пад назовам "узьяднаньне з братняю Латвіяй". Стары латыскі лідэр Гунтас Ульманіс, які пакутуе ад шматлікіх хваробаў, няздольны асэнсоўваць таго, што робяць за ягонаю сьпінаю маладыя прыхільнікі ідэалёгіі Латыскага легіёну СС. Ідзе нахабная прапаганда ідэі балцкае еднасьці, а насамрэч цягнецца антынародная брудная гульня, дзе кожны ейны чалец мае свае карысьлівыя мэты. Літоўскі фюрэр плянуе праз "узьяднаньне" з Латвіяй стацца галавой супольнае дзяржавы й стварыць Балтыцкую імпэрыю, каб пасьля распаўсюдзіць свой уплыў на сумежныя краіны. Латыскія скрайнія правыя на чале з прэм'ерам Гунтарсам Красам мяркуюць атрымаць выхад да польскае граніцы, каб мець большую выгоду ад экспарту свае кількі й парфумы картэлю "Дзінтарс". Даўняя ж спрэчка паміж Латвіяй і Эстоніяй за нафтавыя сьвідравіны ў Рыскай затоцы будзе разьвязаная на карысьць першае, узмоцненае за кошт атрымання на поўдні новага хаўрусьніка.

працяг на старонцы 2

# УНІІ НАРОДАЎ БЫЦЬ!

Спрадвечная мара насельнікаў плянэты ўсёй зьдзяйсьняецца – пад эгідаю Беларускае Народнае Рэспублікі пачынае сваё згуртаваньне прагрэсіўнае чалавецтва. Імпэрыялісты з Маскоўшчыны ашчэрылі свае нячышчаныя "Блендамэдам" зубы на новую ініцыятыву беларускага Прэзыдэнта па стварэньні Уніі народных рэспублік эўразійскага кантынэнту. Патрэба злучэньня перадавых дэмакратычных краінаў насьпела ўжо даўно праз патрэбу супрацьстаяць славянафіліі ды шавінізму Саюзу Сэрбіі й Маскоўшчыны. Таму 2 красавіка кіраўнік нашае дзяржавы наведаў кітайскую сталіцу Пэкін ды падпісаў Пагадненьне аб стварэньні Супольнасьці КНР і БНР. У інтэрвію агенцтву ЧорнаПАН Прэзыдэнт Алелька Цыбулька выказаў спадзеў, што да Супольнасьці далучацца гэтаксама іншыя ахвочыя дзяржавы. Ужо ўначы 11 красавіка да Прэзыдэнта Беларусі па факсе зьвярнуўся Хан Манголіі Цзы Сяо Сан з прапановаю далучэньня Мангольскае Народнае Рэспублікі да Супольнасьці. У выніку, 13 красавіка кіраўнікі БНР, КНР і МНР у Віленскім Каралеўскім палацы падпісалі Дамову аб стварэньні "Уніі трох". Некаторыя палітычныя сілы як у краіне, гэтак і за мяжою, турбуюцца з нагоды магчымае зьмены балянсу сілаў на плянэце ў выніку ўтварэньня хаўрусу. Аднак на прэсавай канфэрэнцыі лідэраў Беларусі, Кітаю й Манголіі журналісты былі запэўненыя ў адсутнасьці небясьпекі для трэціх дзяржаваў ад стварэньня Уніі.



20 красавіка Правадыр, Таварыш і Бацька карэйскага народу Кім Чэн Ір адаслаў тэлеграмы да кіраўнікоў краінаў Уніі з просьбаю наконт далучэньня ягонае краіны да нашага мірнага зьвязу. Мяркуецца, што неўзабаве ў сталіцы Карэйскае Народна-Дэмакратычнае Рэспублікі Пхэньяне адбудзецца падпісаньне Вялікае дамовы аб стварэньні Уніі паміж БНР, КНР, МНР і КНДР. Да зьвязу папярэдне згадзілася далучыцца Народная Рэспубліка Тану-Тува, пра што гаворыцца ў Пастанове Вялікага Хуралу (парлямэнту) гэтае азіяцкае краіны.

Інтэграцыя нашых дзяржаваў мае вялікае станоўчае значэньне для Беларусі: актывізуецца ня толькі культурнае ўзаемадзеяньне, але й эканамічнае супрацоўніцтва ды павелічэньне нашага экспарту на 40 %. Крытыкі Уніі спасылаюцца на адсутнасьць агульнае мяжы паміж Беларусяй ды іншымі краінамі зьвязу, аднак, у век інфарматызацыі ды дзякуючы запляніраванаму павелічэньню парку лётнага транспарту Рэспублікі, будзе разьвязаная і гэтая праблема.

Кіраўніцтва нашае дзяржавы выказвае думку аб магчымым аб'яднаньні ў будучыні БНР, КНР, МНР, КНДР і ТНР у адзіную фэдэрацыйную дзяржаву. У выпадку далучэньня да хаўрусу Украінскае, Польскае й Вугорскае народных рэспублікаў, а гэтаксама Народнае Рэспублікі Баўгарыі, можна было б сьцьвярджаць пра перамогу беларускае дыпляматыі й аднаўленьне колішняга значэньня Беларускае Дзяржавы, што было ў Сярэднявеччы, як наймагутнейшага гаспадарства сьвету. Гэты статус дазволіў бы нашай краіне стацца гарантам міру й бясьпекі ў рэгіёне ды папераджальнікам імпэрскіх захадаў з боку агрэсіўных суседзяў.

"Уніі народаў быць", – перакананы беларускі Прэзыдэнт. Працэс пайшоў і яго ўжо не спыніць ані крыкамі дыктараў маскоўскае тэлевізіі, ані малітвамі чукоцкіх шаманаў, ані выбухамі іранскіх ракетаў. Беларусь у ХХІ стагодзьдзе ўвойдзе Вялікаю Супэрдзяржаваю!

**Францішак Шумскі, "РБ"**

## У КРАІНЕ

# МЯСЦОВЫЯ РАДЫ АБРАНЫЯ

Выбары ў мясцовыя Рады Беларускае Народнае Рэспублікі, што адбыліся 4 красавіка, сталіся чарговым прыкладам разважнасьці й прадбачлівасьці беларускага народу. У органы мясцовае ўлады патрапілі лепшыя зь лепшых, бо заканадаўства на самым першым этапе падрыхтоўкі волевыяўленьня грамадзянаў засьцерагло ад пранікненьня ўва ўладныя структуры нядобранадзейных ды несумленных крымінальных элемэнтаў. Актыўнаму зьяўленьню выбарнікаў на ўчастках садзейнічала ня толькі надвор'е, а гэтаксама цудоўная магчымасьць паслухаць ансамблі народнае самадзейнасьці й адчуць сябе датычнымі да вялікае справы дзяржаўнага будаўніцтва й кіраваньня. Паводле вынікаў выбараў, агалошаных Цэнтральным сакратарыятам па выбарах і ладжаньні агульнанацыянальных апытаньняў, да сваіх участкаў прыйшлі 87 % грамадзянаў, а па Менску, Вільні й Бранску да 92 %. Асабліва цікавы вынік муніцыпальных выбараў у нядаўна ўзьяднаным зь Беларускаю Народнаю Рэспублікай Бранску. У мясцовую Раду прайшлі пераважнаю большасьцю прыхільнікі лучнасьці зь Беларусяй, а расейскія нацыяналісты атрымалі толькі 3 месцы. У павятовы Кнэсэт-Раду Шклоўшчыны ўсе ранейшыя дэпутаты амаль цалкам былі пераабраныя праз жыдоўскі нацыянальны звычай кіраваньня Радаю старэйшынаў, складзенай з сталага веку духоўніцтва. Гэта, напэўна, самая старая мясцовая Рада краіны, што не зьмяняла свайго складу ад 1978 году.

Абраныя цяпер Рады будуць кіраваць да 2004 году і, будзем спадзявацца, што ў супольнай працы з цэнтральнымі кіраўнічымі органамі Рэспублікі й магістратамі ваяводзкіх ды павятовых цэнтраў зробяць нямала для росквіту сваіх рэгіёнаў і агулам для Беларусі.

## У СЬВЕЦЕ

пачатак на старонцы 1

### НОВЫ РАЙХ

У выпадку ажыцьцяўленьня гэнага пляну, пад пагрозай акупацыі апынецца Каралявеччына, што даўна імкнецца да цеснага зьвязу зь Беларусяй. Таму цяпер на мяжы павялічваецца канцэнтрацыя беларускіх вайскоўцаў.

Міжнародная супольнасьць падтрымоўвае высілкі Беларускае Народнае Рэспублікі па ліквідацыі агменю літоўскага фашызму й імпэрыялізму, а гэтаксама скіроўвае назіральнікаў у рэгіён нестабільнасьці, каб прадухіліць магчымыя правакацыі з боку рэжыму Глюкуса.

**Вянцук Ранічка, "РБ"**



# АЎТАФЭКАЛІЯ КАНАЛІЗАВАЛА СЬВЯТЫХ

У Менску на Вялікдзень адбылася падзея гістарычнае значнасьці ў царкоўным жыцьці Беларусі. У Катэдральным Запоры Ўсебеларускае аўтафэкальнае царквы на паседжаньні Сьвятое Рады адбылася каналізацыя сьвятых гэтае канфэсіі. Імшу вёў першагерарх царквы Татусь Менскі і Ўсебеларускі Ільля І. Падзея вельмі істотная з гледзішча ўмацаваньня пазыцыяў Беларусі ў рэлігійным сьвеце, бо царква ахоплівае 99, 9 адсоткаў жыхароў БНР і 99, 8 жыхарства сьвету. Паводле словаў Ільлі І: "Ведамая рэч - кожны ходзіць да ветру".

Імша ўразіла сваёю прыгажосьцю й бляскам, а сьпевы ад Катэдры даляталі ажно да Купалаўскага тэатру й будынку Цэнтральнае Рады Народнае Партыі (сьведамых) Беларусі. Царкоўная Рада пастанавіла надалей замест віна "Кагор", што ўжо не выпрабляецца, а раней пастаўлялася з Францыі, ужываць у Сьвятой Камуніі грузынскі напой "Мінасцалі". Гэта дазволіць зьменшыць выдаткі й на ашчаджаныя грошы рэканструяваць Катэдральны Запор сьвятога Кала.

**Аўгустын Шчасьлівы, "РБ"**

## PLAYBOY

# ЯШЧЭ РАЗ ДА ПЫТАНЬНЯ БЕЛАРУСКАГА ЯЗЫКА

У нашую газэту зьвярнулася 15-гадовая дзяўчынка з Масквы, якую клічуць Маргарыта, з канкрэтным запытаньнем: "Какъ мне овладеть белорусскимъ языкомъ? Среди моихъ друзей, знакомыхъ, одноклассниковъ никто, сами понимаете, помочь мне не можетъ. Мои родители - белорусы, но они, къ сожалению, тоже не владеютъ роднымъ языкомъ, а соответствующая литература не доступна. Что делать?.."*

Маргарыце ласкава згадзіўся дапамагчы прафэсар Алег Зайцаў:

"Любая Рыта! Адказ адзін: вучыцца й яшчэ раз вучыцца. А вось як, паспрабую параіць з уласнага досьведу. Штодзень па гадзіне (лепей перад сном, каб начныя карцінкі трансьляваліся па-беларуску) паўтарай словы зь літараю "л": ВКЛ, БНЛ, Глёбус, ласкавы, улюбёны, вялікі, устойлівы, фізіялёгія, задаволенасьць і г.д. Смакчы цукеркі-смактунчыкі. Спрабуй дацягнуцца канцом языка да кончыка носу. Не кусай, а ліжы марозіва. Вылізвай языком слоікі з-пад сочыва. Набірай языком нумары тэлефонаў на апараце з дыскавым наборам. Ёсьць яшчэ гэткая старажытная кітайская тэхналёгія: падчапі на матузку апэльсын і пачынай практыкавацца. Зрабі кароткі імгненны ўдар па плодзе. Падымай апэльсын павольным узыходным рухам. Пагайдай яго з боку ў бок. Праз некалькі тыдняў перайдзі на грэйпфрут. У час падрыхтоўкі да



Алімпіяды папрактыкуйся з кавуном альбо гантэляю".

Гэткая мэтодыка дазволіць авалодаць любым языком без вынятку за год-два, у тым ліку й беларускім. Ну а табе, Маргарыта, асабліва калі дапамогуць сябры, хопіць і шасьцёх-васьмёх месяцаў. Жадаем плёну ў навуцы.

* "Як мне аваладаць беларускім языком? У асяродку маіх сяброў, знаёмых, аднаклясьнікаў ніхто, самыя разумееце, дапамагчы мне ня можа. Мае бацькі - беларусы, але яны, на жаль, гэтаксама не валодаюць сваім языком, патрэбная ж літаратура адсутная. Што рабіць?.."

РАДАВАЯ БЕЛАРУСЬ

Заснавальнікі–Народны Сакратарыят Беларускае Народнае Рэспублікі й Рэдакцыйная Рада

*Наш адрас: 220030, Менск а/с 169*

Галоўны рэдактар

Паўлюк Я. КУБЭ